Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 12. Вільня, 22 траўня 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Ціхая вул. 4, (альбо Міцкевіча 15) кв. 20. Тэлефон № 1207 | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за $^1/_2$—65, за $^1/_4$—35, за $^1/_8$—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Нашым „крытыкам“.

> Адвага — гэта значыць шукаць праўды і гаварыць праўду.
>
> *Ж. Жорэс.*

Нашая часопісь нарадзілася ў абставінах глыбокае дэморалізацыі сярод віленскіх беларусаў, нарадзілася ў той час, калі і без таго невялікая лікам віленская беларуская інтэлігэнцыя разьбілася на розныя групкі і пачала, як-бы па загаду ворагаў беларушчыны, беспадстаўную, бясплодную, шкодную грызьню.

Вільня, дзе пачаўся беларускі адраджэнскі рух, Вільня, дзе пачалі друкавацца першыя беларускія часопісі і кніжкі, дзе пачала ўзгадоўвацца ідэя Незалежнае і Вольнае Беларусі, гэтая самая беларуская Вільня, на якую пакладаў і пакладае свае надзеі Беларускі Народ, — стала сяганьня нейкім пасьмешышчам.

Мана, брахня, беспрынцыповасьць баззубых палітыканаў, — вось характарная ад'знака віленскае беларускае сучаснасьці і асабліва некаторае часткі беларускае віленскае прэсы, якая згубіла здаровы шлях і заместа культуры, заместа ідэі народнае лучнасьці і адраджэньня, нясе ў народныя масы атруту і будзіць самыя нізкія інстынкты. Прыкра беларусу пісаць аб усім гэтым, але маем адвагу сьмела глядзець у вочы праўдзе і гаварыць гэтую праўду, хоць-бы яна і была невясёлаю.

Беларускі народ складаецца соцыяльна амаль што з аднаго сялянства і невялікае групы работнікаў ды маладое беларускае інтэлігэнцыі, моцна зьвязанае з сялянскім сьветапаглядам. Здавалася-б, што соцыяльна аднародная маса беларускага народу ня можа быць арэнаю палітычнае грызьні і інтрыгаў.

Здавалася-б, што ідэя адзінага нацыянальнага фронту мусіць мець найбольшы пасьпех. І так яно павінна быць, калі ідэю беларускага руху разглядаць спакойна і ня слухаць і ня служыць розным варожым беларушчыне сілам. Але нажаль, кажам мы, Вільня ад нейкага часу ідзе ў адваротным кірунку. Віленская беларуская прэса, якая адбівае на сваіх старонках працэс гэтае дэморалізацыі і распаду, запоўнена рознымі інсынуацыямі, розным пляткарствам. „Нашы Справы“ і „Нашы Праўды“ — выліваюць штодня памыі на галаву „Сялянскае Нівы“ і „Крыніцы“ і яны на кожную порцыю гэтых памыяў — адказваюць тым-жа самым.

Беспадстаўная, штучная грызьня перайшла апошнія межы. Пачынаюць грызьціся паміж сабою ўжо не «напрамкі», не газэты, а амбітныя асобы гора - «правадыры» і нават паслы Сойму, якія не саромеюцца паставіць свой подпіс пад гэнаю міскаю памыяў.

Так выкарыстоўваецца беларуская прэса, абавязкам якое зьяўляецца будзіць ідэю лучнасьці і творчага адзінства беларускага народу, выхоўваць маладое пакаленьне і гэтым закладаць грунт для лепшае будучыны.

І мімаволі прыходзіць у галаву пытаньне, ці не сядзяць за плячыма ўсіх гэтых драчуноў і «грызуноў» ворагі беларушчыны, якія, паводлуг народнае казкі, ня могуць зламаць беларускага веніка, а хочуць паламаць усіх беларусаў паасобку, хочуць скампрамітаваць беларускі рух і беларускую інтэлігэнцыю і зьніштожыць яе творчыя сілы ў узаемнай барацьбе? Зусім зразумела, што сялянства пачынаець шарахацца ў бок ад віленскіх звычаяў. У народзе пачынаецца глухі протэст, глухі шум і незадаваленьне. І вось у такіх абставінах і нарадзілася ідэя „Беларускага Дня“ і пачала выдавацца наша часопісь. Зусім спакойна, нікога не зачапляючы, мы пачалі трудную працу. Мы пачалі шукаць новых шляхоў і новых творчых формаў для нацыянальнага беларускага руху.

Вось гэта якраз і не спадабалася тым, якія зрабілі з грызьні сваю спэцыяльнасьць. Яны настаражылі свае вушы і пачалі з баязьню, коса паглядаць на нас. У некаторых газэтах і часопісях зьявіліся нейкія бессэнсоўныя рэцэнзіі аб „Беларускім Дні“, на каторыя наша часопісь ня лічыла патрэбным рэагаваць і спакойна вяла далей сваю працу. Нарэшце, 11-га траўня ў самай дразьлівай беларускай газэце «Наша Праўда», зьявіўся аж цэлы ўступны артыкул, у якім фокусьнік, схаваўшы, як страус, сваю галаву пад крыло, стараецца справакаваць беларускага чытача проціў нас, а „Б.Д.“ выклікаць на полеміку і грызьню. Дырыжэр „Н. Праўды“ згодна са сваім звычаем, проста перакручваець нашыя думкі, выказаныя ў артыкуле „Аб культурных справах“ („Б. Д.“ № 9). Мы верым у здаровыя народныя сілы і выказваем свае пагляды на нашую сучаснасьць сьмела і адважна. Мы шануем свой народ і пераконаны ў тым, што ён ня любіць самахвальства і маны, а любіць здаровую крытыку. Мы не заплюшчаем вачэй на нашыя б а л я ч к і і с л а б а с ь ц і, бо х о ч а м п а з б а в і ц ц а іх. Мы верым, што выяўленьне і крытыка сучаснасьці ня толькі не пазбавіць народ нацыянальнае сілы, а наадварот выкліча творчую энэргію, бо задачаю творчасьці—не зачыняць вачэй на прыкрую праўду і гэтым самым ашукваць народ, а пазнаць яе і знайсьці лякарства да залячэньня хвараблівых зьяваў і стварэньня новых формаў жыцьця.

І вось наш «крытык» — «знайшоў» у нашых думках якраз адваротнае — быццам мы хочам „забіць творчы дух і зламаць веру“.

Народу не запужаеш і не ашукаеш! Тыя пісьмы з вёскі, якія мы адтрымліваем штодня ад сялян—пісьмы, ў якіх з кожнага слова б‘ець здаровым розумам народным, зьяўляюцца для нас больш аўторытэтным судзьдзёю, чымсь хітрая полеміка пісак з «Нашае Праўды. А гэтыя пісьмы якраз і кажуць, што наша часопісь выбрала верны шлях і народ наш на гэтым шляху нас падтрымаець.

# Успаміны з Пэрсіі.

*(Гл. № 11 „Б.Д.“).*

Прыпамінаю сабе яшчэ адзін характарны для Пэрсіі абразок, які я бачыў падчас аднае з падарожаў на гэным шляху, ў ваколіцах Рэшту. Было гэта ў пятніцу, якая для магамэтанаў зьяўляецца днём адпачынку, так сама, як нядзеля для хрысьціян. У дзень гэны магамэтане, кідаюць работу, моляцца ў сваіх царквах - мэчэтах і займаюцца рознымі справамі, якія не вымагаюць вялікшай працы. І вось я бачыў, як у гэткі дзэнь адпачынку ў ваколіцах Рэшту займаюцца яны ачысткай вопраткі свае ад бруду. Сабраўшыся грамадкамі, па трох-чатырох, сядаюць яны на зямлю пад сьценамі сваіх хатаў на сонцапёку, здымаюць з сябе порткі і кашулю і, застаўшыся голымі, так, як іх матка нарадзіла, толькі ў шапках на галаве, пачынаюць вытрасаць бруд з вопраткі, пасьля шчыльна абшукваюць яе, заглядаючы ў кожную складачку. З шашы, праходзячай бліска каля хатаў, добра відаць было, як шпарка-шпарка працуюць іх пальцы, і раз за разам выцягваецца голая рука і кідае ў міску з вадой, альбо ў грудку гарачых вуглёў, сваю здабычу.

У іншым гуртку, ўжо скончыўшы, відаць, з ачысткай вопраткі, пэрсы адзін аднаму ачышчаюць з бруду галаву. Туткі на падмогу пальцам ідуць грэбяні, а часам нажы. Грэбяні ў іх зроблены з нейкага дзэрава, здаецца пальмовага, даволі цьвёрдага і моцнага, так што яны маглі-б зусім адпавядаць свайму назначэньню, каб ня дзёрлі гэтак валасоў. Грэбяні гэныя майстры іхнія робяць не фабрычным спосабам, а ручным, пры помачы няхітрых струмэнтаў, паміж якімі галоўнае месца займае лобзік самадзельнай работы і тонкія пілачкі, якія ўжываюць і ў нас вельмі часта для выпілоўваньня рамаў і іншых ажурных работ з дзэрава. Частку грэбеня, свабодную ад зубоў, яны прыхарошваюць, выводзячы на ёй, радкамі ня глыбокіх дзірачак, розныя ўзоры. Відаць шмат працы

# РУНЬ.

Нядаўна зусім кідаў сейбіт зярнё
На ўлоньне зямліцы сырой,
Дзе толькі ўзрастала дзікое зяльлё
Дый краскі жаўцелі парой.

Нядаўна зусім усё гэта было,
Зрабілася-ж зьмена так жыва,
Зярнё узьнялося і буйна ўзыйшло
І ніва рунее на-дзіва.

Сонейка яснае шле ёй прамень,
Хмарка-пралётка акропіць
І бор векавы адкідае свой цень,
Жаўранак песьняю звоніць.

Казку аб працы вялікай пяе,
Гымн хараства ўдаль нясецца,
Там ў паднябесьсі ён хваліць яе,
То трэль завядзе, то зальецца.

Ветрык вясновы упаў яму ў тон,
І славу разносіць далёка —
На крыльлях сваіх занясе песьню ён,
Там, дзе не сягне і вока.

Хутка і буйна ўскалосяцца гоні,
Хвалі ураз пабягуць чарадой
І колас, дасьпеўшы на родным улоньні,
Будзе ківаць залатой галавой.

За працу мазольную, родная ніва
Аддзякуе ў сотню, у тысячу раз
І цешыцца сэрца надзеяю жніва,
Якое прыйдзе праз нядоўгі ўжо час.

Цешыцца сэрца ўзыходам магутным
І радасьцю поўняцца грудзі.
Хочацца вочы карміць відам цудным,
Бо гэта-ж зрабілі, мы—людзі.

Пачуеш тады у сабе, мімаволі
Рух першае творчае сілы
І рвешся да сонца, і рвешся да волі,
І сьвет тады гэтакі мілы!

*Вітэблянін.*

# У сумныя часіны.

У часіны сумныя жыцьця,
Як цяжка жыць на сьвеце,
Душу ў малітвах, як дзіця,
Стараюся сагрэці.

Пацешыць сам хачу сябе,
У думках прашу Бога
Каб даў братом маім і мне
Свабодна жыць! Ня многа,

Ня многа я хачу ой, не:
Хачу, каб горкай долі
Ня бачыць ў роднай старане
Нам ні цяпер, ніколі.

Хачу, малюся і прашу
У Бога, што на небе:
— Пацеш збалелую душу,
Дай тоё нам, што трэба.

Дай, Ўсемагутны, вольна жыць
У родненькай старонцы.
Душа мая па ёй баліць,
Дай волю ёй да сонца.

Дай сілы, моцы, Божа нам
З бядой сваёй змагацца!
Дай! я за гэта ўсё аддам —
Гатоў з жыцьцём растацца.

Бо не хапае ўжо ў грудзёх,
Ні сілы мне, ні моцы.
Хаос ў жыцьці, разлад ў людзёх,
Дарог ня знойдзеш ўночы!

Дык, Усядобры Божа, нам
Сіл з бядой змагацца
Дай! я за гэта ўсё аддам —
Гатоў з жыцьцём растацца.

*Міт.*

---

ўкладаюць майстры ў сваю работу, але, нажаль, невялікая з яе карысьць, бо калі я прывёз некалькі грэбянёў аж сюды ў Вільню, і хацеў зрабіць прэзэнт нашым кабетам, дык яны іх забракавалі, кажучы, што нашы фабрычныя грэбяні і прыгажэйшыя і гладзейшыя, і валасоў не дзяруць, і наагул—куды лепшыя.

Пішучы аб падарожы па гэным шляху, яшчэ прыпамінаю адну рэч, якая зьвярнула маю ўвагу, як паляўнічага. Пад'яжджаючы да Рэшту незадоўга прад заходам сонца, нейк увосень пачаў бунтаваць мой самаход; машына пачала даваць перабоі і ледзь цягнула, так што прыйшлося затрымаць самаход і аглядзець яго. Шаша ў тым месцы праходзіла паміж сенажацямі, а далей ад шашы, па абодвух бакох яе, цягнуліся нейкія гусьцяры,ператканыя купінкамі дрэваў. Пакуль шофэр кратаўся каля машыны, я прыглядаўся на сьвет Божы, такі прыгожы ў гэны цёплы ціхі дзень. Сонца ўжо пачынала хавацца за вярхоўкі дрэваў, калі разам чую ў цішы добра знаёмае мне кромканьне і сьвіст.

Ці-ж бы гэта была сломка?

Я глянуў у той бок, адкуль нясьліся знаёмыя гукі і ўбачыў шэрага лятуна. Па лёту яго, па характарным кромканьні і сьвісьце я пазнаў сломку. Гоманам родных лясоў і пахам вясны павеяла на мяне ад гэнай шэранькай птушкі. Разбуджаная думка вострай тугой зашчаміла сэрца. І я сьлязьлівымі вачамі вітаў яе, як пасланца далёкай Бацькаўшчыны, які кромканьнем сваім і сьвістам вітаў мяне. Але не прапала яшчэ з маіх вачэй першая сломка, як пачуў я зноў сьвіст і кромканьне з іншага боку. Гэта ляцела другая сломка, за хвіліну пачуў трэцюю і пасьля, быццам па нейкаму сыгналу, сотні сьвістаў азваліся з усіх бакоў і сломкі цэлымі стадамі зашмыргалі над маей галавою. Гэткай грамады іх я ніколі ня бачыў у родных лясох. Вось дзе запраўднае Эльдорадо для паляўнічага! Я на той раз ня меў з сабою стрэльбы і толькі мог прыглядацца да вясельля птушак.

Праз некалькі дзясяткоў кілёмэтраў за Рэштам шаша канчаецца і дарога, пакінуўшы нізіну, паволі

## Памяць братом.

Дзе вы, браточкі,
Вайною забітыя?
Ўсімі пакінуты,
Ўсімі забытыя...
Дзе?... сярод поля
Сьпіцё, адзінокія?
Ці над магілкамі
Хвоі высокія
Цені над вамі
Свае расьцілаюць?
Косьці бясчулыя,
Дзе спачываюць?
Што здабылі вы
Крывавай ахвярай?
Што, ну скажэце?
Дзе сонца?... за хмарай...
Дзе праўда сьвятая?
Падбіта пад ногі...
Няма для нас жыцьця,
Замкнуты дарогі.
Ня грошаў, ня славы,
Вы сьвету жадалі,
Хоць трошачкі сьвету...
І што адтрымалі?
Стала вам хаткаю
Яма глыбокая —
Вечным прытулкам,
Старонка далёкая.
Сьпеце-жа, мілыя,
Сьпеце, бяздольныя:
Людзі забудуць,
Дык птушачкі вольныя
З родных палёў да вас
Будуць лятаці,
Сьпевамі дзіўнымі
Вас разважаці.
Вестку аб дзетках
Яны прынясуць:
Цяжка сіротачкам —
Дрэнна жывуць.
Чые то худыя?
Чые няпрыгрэтыя?
Ходзяць абодраны,
Ходзяць разьдзетыя...
Ўсімі пакрыўджаны,
Ходзяць галодныя —
Чые гэта? хто гэта?
— Дзеткі вам родныя!..
Сьпеце-жа, брацікі!
Сьпеце, сардэчныя...
Вечны пакой вам,
І памяць вам вечная...

*Міхась Васілёк.*

## Патрэба рэформы школьнае палітыкі.

Асьвета зьяўляецца такой самай патрэбай, як і хлеб. Сіла грамадзянства, парадак у дзяржаве і добрыя абачаі ў сям'і залежаць ад ступені граматнасьці насяленьня, яго культурнага роўня.

Ужо другое сталецьце справа асьветы прызнана ўсюды найважнейшым заданьнем дзяржавы, якая ў пашырэньні і паглыбленьні культуры відзіць залог істнаваньня, разьвіцьця і дабрабыту. На асьвету выдзяляюцца вялікія сумы з дзяржаўных расходаў.

Асьвету здабываець у школах наймалодшае пакаленьне, што толькі вышла з-пад матчынае апекі. Разумная школа тая, дзе датарноўваюцца найнавейшыя здабыткі пэдагогікі (навукі аб навучаньні).

Першай і галоўнай падставай пэдагогікі ёсьць— вучыць дзяцей у матчынай мове. Дзе гэны прынцып зламаны, там ня школа, а прыгонны засьценак, якога баяцца і ненавідзяць дзеці.

Яшчэ не абсохлі сьлёзы польскіх дзяцей, што мусілі ў школах забывацца свае матчынае мовы ў бышых расейскіх і нямецкіх школах.

Памятна яшчэ Вжэсьня, дзе каталі польскіх

---

пачынае ўразацца ў горы. З пачатку горы гэныя яшчэ зеленеюць лясамі, па стромкіх скалах, паміж якімі прарыты гасьцінец, паўзуць нейкія расьліны, але чым далей ад мора, чым болей гасьцінец углыбляецца ў горы, якія зачыняюць доступ вільгаці, тым болей выгляд гораў зьмяняецца, зьмяняецца таксама і клімат.

Ужо на горах вы ня ўбачыце лясоў, а вокал стаяць голыя скалы, расьліннасьць прападае, паветра робіцца сухім. У адлегласьці 100 кілёмэтраў ад Энзэлі, ў Мэнджылі, вы пападаеце ў катлавіну, акружаную грамадамі скалаў. Аграмадны горны масыў бароніць доступ хмарам, плывучым ад мора. На вярхоўцы яго вы заўсёды амаль убачыце белае воблака, якое быццам змагаецца з гарою і, ўпёршыся ў каменныя грудзі гары, хоча сьпіхнуць яе з дарогі і адчыніць сабе свабодны шлях у краіну, дзе так прыгожа сьвеціць сонца.

Але дарэмны высілкі хмараў! Горы мацнейшыя за іх і толькі рэдка калі, пад напорам ветру, ўдаецца ім праціснуцца праз міжгор'і і заглянуць у гэны таёмны і нязнаны ім край.

Цікаўнае места гэны Мэнджыль. Аб ім у Пэрсіі ведаюць далёка. Самы назоў — Мэнджыль азначае папэрсідзку: тысяча ветроў. І запраўды: калі-б вы сюды ні прыяжджалі, здалёку ўжо спатыкае вас гаспадар гэнае краіны: вецер буйны, кідае ў вочы вобламамі пылу і жвіру, дзярэць вопратку і так напірае, што боязна, каб не зваліцца ў кручу. Іншы раз подмухі ветру дасягаюць у Мэнджылі страшэннай сілы. Тады ня толькі жвір, але нават і невялічкія каменьні гураган паднімае ў паветра і з страшэннай сілай кідае іх на ўсё, што спатыкае на сваёй дарозе. Стогнуць тагды горы пад напорам дзікай сілы і здаецца, што грамада духоў нячыстых зьляцелася сюды з усяго сьвету і плача ў міжгор'ях над сваею нядоляю і, вырваўшыся з іх абняцьця на шырокі прастор Мэнджыльскай катліны, з песьняй пякельнай, гуляе над далінай. Страшна тады ў Мэнджылі! Але ў рэдкія хвіліны,

дзяцей за любоў і ўкаханьне свае мовы, напяянай ім маткай над калыскай.

Сучаснае польскае грамадзянства помніць яшчэ выклікаўшыя ненавісьць надпісы „говорить по польски воспрещается“.

А помнячы і перанёсшы гэты зьдзек, павінна рабіць лёгічныя вывады з пережытага на сабе досьледу.

Гэтага вымагае лёгіка, але ў жыцьці ня усё дзеецца паводле яе законаў.

Бо калі аглянёмся назад у недалёкую прошласьць жыцьця Заходняе Беларусі пад Польшчай, дык трудна зразумець польскую ўрадовую школьную палітыку ў адносінах да беларускіх дзяцей.

Цяжка і трудна аб ёй пісаць. Яе ня было. Вось ужо 8 год пераживаем адны толькі досьледы, экспэрымэнты над беларускаю моладзяй, якой у школе „гаварыць пабеларуску забаронена“.

Праклятая сыстэма быўшых царскіх урадаў засела на нашых землях дасюль.

Ужо цяпер ніхто, апрача тупагаловае эндэцкае партыі і падшываўшыхся пад зьвярыны шовінізм прыхільнікаў павароту царскага рэжыму, не адважыцца цьвярдзіць, што ў межах Польшчы няма беларусаў.

Яны ёсьць! Сьведамасьць з году ў год расьце, а з ёю нарастае ў беларускай масе здольнасьць адчуваньня свае крыўды ў школьным пытаньні. Бо ўрадовае беларускае школы ў Польшчы няма. Рэкламаваныя двуязычныя школы ня могуць называцца беларускімі, пакуль навучаюць там прыбыўшыя з Польшчы, чужыя па псыхіцы нашаму сярмяжніку, людзі. Кожнае мястэчка на Беларусі мае жыдоўскую пачатковую школу — беларускае там няма.

Языковыя законы, дэкларацыі—гэта адна мана, адзін повад да раздражненьня спакойных, ні ў чым нявінных людзей, ды повад да пераўвялічанае баязьні перад беларускім адраджэнскім нацыянальным рухам.

Дэкларацыі мелі даць школы, але далі толькі протэсты да ўрадовых установаў, што другія установы і ўрадоўцы не пазваляюць злажыць дэкларацыяў і скарыстаць з прызнанага законам права на родную беларускую школу.

І калі па усёй Польшчы праводзіцца ў галіне пачатковага навучаньня школьны прымус, то ў Заходняй Беларусі ўстройваюцца недарэчныя школьныя плебісцыты.

Падаткі бяруцца, паводле аднаго закону, і ў Лодзі і ў Баранавічах ці Навагрудку, за тое там школа ў матчынай мове, тут, у нас, у незразумелай для дзіцяці, там школьны прымус, тут анкетнае пытаньне — ці патрэбна школа?

І сёньня, калі нават урад адважыцца супроць партыі Дмоўскага і лагеру „Вялікае Польшчы“ адчыніць у Заходняй Беларусі пачатковыя школы, паводле прынцыпу матчынае мовы, то напэўна спаткаецца, так, як і цыркуляр віцэ-прэм‘ера Бартля, з саботажам ніжніх урадоўцаў і настаўнікаў.

Бо ў нас народнае настаўніцтва пераважна імпортована з Галіцыі. Чужое яно па выхаваньні, духу і мове беларускай масе, якая, кажам сьмела, гэтага настаўніцтва ня любіць — не шануе яго і не разумее. З другога боку, маса беларускіх інтэлігэнтаў прымірае з голаду. Ім не даюцца правы да навучаньня, бо яны ня маюць вымаганых кваліфікацыяў. Кваліфікацыі, гэта толькі фікцыя — тое што яны сьведамыя беларусы—вось дзе перашкода.

Так было дасюль. Мін. Васілеўскі („Белар. Дзень“ № 10) сказаў аб замерах, якія хоча ажыцявіць урад. Мы жадаем гэтых рэформаў і чым хутчэй яны прыйдуць, тым лепш будзе для абедзьвюх старон.

*Студэнт.*

---

калі вецер уціхне — Мэнджыль выглядае вельмі прыгожа.

Прыгожасьць яго — гэта ня тая прыгожасьць жыцьця нашых родных, зялёных летам нізін, прарэзаных устужкамі срэбных ручайкоў і рэчак, альбо прыкрытых бельлю сьнегу зімою, якая цешыць сэрца і песьціць вока. Прыгожасьць Мэнджылю ў яго дзікасьці, ў яго шэрых, голых скалах, прыгожасьць яго навявае нейкі сум і жах, гэта — прыгожасьць сьмерці. І запраўды сьмерць тоіцца ў горах. Бледны твар яе я бачыў раз уласнымі вачамі. У адзін прыгожы ціхі дзень, якія рэдка калі бываюць у Мэнджылі, сабраўся я са стрэльбай у руках—паглядзець бліжэй на горы, якія гэтак манілі мяне заўсёгды сваею таёмнасьцю. Ідучы нейкай сьцежачкай, я ўбачыў стадка горных курапатак. Курапаткі гэныя зусім падобны выглядам сваім і велічнэй да нашых, толькі колер іх апярэньня прытарнованы да колеру гораў залежна ад таго, ў якім месцы яны водзяцца, зьмяняецца ад шэрага да цэгляста-чырвонага. Цэлая грамадка гэных птушак жыравала ў скальнай шчыліне і пры маім прыбліжэньні ўзьнялася і, адляцеўшы трошкі, села недалёка на зусім голым месцы на скале. Я пайшоў за імі і зноў спалохаў, не падыйшоўшы ны адлегласьць стрэлу. Яны зноў узьняліся і адляцелі трошкі далей, але зноў так, што мне добра відаць было, куды яны селі. Я далей пайшоў за імі. Прайшло мусіць добрае поўгадзіны, як я ганяўся ўжо за гэным стадам і ніколі ня мог падысьці да яго на адлегласьць стрэлу, хаця кожны раз здавалася мне, што яно сядзіць вось-вось, зусім блізка. Толькі зайшоўшы ў гэткі лябірынт, што далей ужо ісьці было немагчыма, я зразумеў, што дзякі чыстаце паветра, блізкім здавалася мне тое, што запраўды было вельмі далёкім. Гэткую памылку, пры ацэнцы адлегласьці, ў горах зрабіць вельмі лёгка. Прыпамінаю сабе, як адзін раз я памыліўся, кажучы, што да аднае вёскі ня больш, як 4—5 кілёмэтраў, а запраўды, як я праканаўся, было да яе ня менш, як дваццаць. Зразумеўшы гэта, я паглядзеў апошні раз на кура-

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

### Гадоўля аўса.

Гадоўля аўса перад сусьветнаю вайною не заўсёды магла ў нас аплаціцца, дзеля таго, што была конкурэнцыя таннага расейскага аўса, гадованага на вялікіх абшарах. Сягоньня варункі ў гэным сэнсе зьмяніліся, цэны на авёс досіць высокія, трымаюцца блізка што на адным роўні з ячменем, а з другога боку неўраджай аўса ў працягу гадоў значна ўплыў на павялічэньне цэнаў і патрабаваньне яго на рынку.

Авёс удаецца ледзь не на ўсіх грунтох, абы ня вельмі сухіх, па прычыне вялікага патрабаваньня вады ў пэрыяд росту. Звычайна гадуем яго ў канцы пладазьмену, на ўжо выкарыстаных грунтох, таму што авёс мае магчымасьць, дзякуючы моцна разьвітай сыстэме карэньняў, убіраць кормы з зьвязкаў, непрысваяльных для іншых культурных расьлінаў.

Ня гледзячы на тое, што авёс дае раду і ў горшых варунках, усё-ж такі добры дагляд багата аплачваецца. Калі авёс ідзе па азіміне, дык па ўборцы азіміны трэба зрабіць падграньне пожні, пасьля ральлю закачаць, а перад зімою даць глыбокую арбу і пакінуць ральлю ў вострай скібе да вясны. Вясною лепш не чапаць ральлі плугам, а толькі катком, культыватарам і бараною. Як толькі ральля абсохне (канец сакавіка, пачатак красавіка) і можна выйсьці на поле з коньмі, дык не адкладаючы трэба пачаць сяўбу.

Паўстае пытаньне, чаму мы павінны сеяць авёс раней? Па першае таму, што авёс дзеля абыходу вымагае ледзь ня два разы гэтулькі вады, як іншае збожжа, па другое — рана пасеяны авёс моцна разьвівае сыстэму карэньняў, нарэшце, авёс вымагае болей вады падчас росту. На вагавую адзінку плоду зерняці і саломы авёс ужывае каля 600 вагавых адзінак вады, а ячмень толькі каля 400, дык, пры раньняй сяўбе, авёс зможа выкарыстаць зімовую вільгаць, нарэшце — пасьля засеву аўса забаранаваньнем паверхні зямлі забясьпечваем яе ад празьмернага выпарваньня вады. Найболей вады ўбірае авёс у пэрыядзе выплываньчя, недахоп вады ў гэты крытычны пэрыяд рашае аб ураджаі.

Калі сеем авёс пасьля акопных, дык таксама лепш сеяць яго на васеньняй арбе. На васеньніх арбох ярына мае менш сьметнякоў.

Аўса высяваем пры ручной сяўбе каля 200 кл., а пры сеяньні ў рады каля 180 кг. на 1 га поўнае ўжытковае вартасьці. На слабейшых грунтох або вычарпаных сеем гусьцей, а на ўрадлівейшых — радчэй.

Засеў і прыкрыцьцё засеву баронамі трэба зрабіць так, каб у часе абыходу не магла стварыцца скарынка на паверхні зямлі, якая затрудніць усходы і пазбавіць карэньні паветра, што ўплыве забойча на далейшае разьвіцьцё аўса і яго ўраджай. Калі пасьля засеву спадзе моцная навальніца і створыцца на паверхні зямлі скарынка, дык пры першай магчымасьці трэба скарынку зьнішчыць бараною.

Па ўсходзе, як толькі авёс крыху закараніцда і пачне куставацца, дык трэба ўвесь засеў баранаваць, пакольки, ведама-ж, ня ўсеяна ў авёс канюшына, люцэрна, травы і інш. Баранаваньне трэба залічыць да найважнэйшых дзейнасьцяў дагляду засеву.

Баранаваньне ўплывае:

1) на зьнішчэньне сьметнякоў,
2) на зьнішчэньне скарынкі на паверхні,
3) павялічыць даплыў паветра да карэньняў,
4) забясьпечыць грунт ад выпарэньня вільгаці і
5) павялічыць куставаньне.

Дзеля баранаваньня трэба ўжываць лёгкія бароны гэт. зв. 6-палёўкі, якія ўжываюцца дзеля закрыцьця сеяньня радамі, або амэрыканскую барану Вэдэра (Weedera), спэцыяльна збудаваную для баранаваньня яравога збожжа. Барана гэтая-над'звычайна лёгкая, мае замест кароткіх зубоў доўгія элястычныя пруты, моцныя і трывалыя. Вымагае сілы аднаго каня і абслугі аднаго чалавека. Работу выпаўняе хутка, робячы працу на шырыні $2^1/_4$ мэтра. Важыць каля 40 кг.

Ня трэба баяцца таго, што часьць расьлінаў пры баранаваньні будзе пашкоджана або вырвана, страты багата аплацяцца. Найлепш баранаваць упоперак альбо наўскос засеву (калі сеяна

---

патак, якія пераляцеўшы праз прорву, прайсьці праз якую, альбо абмінуць было ўжо зусім немагчыма, я плюнуў са злосьці і павярнуў да хаты. І вось тут толькі я пазнаў, што лезьці ўгару куды лягчэй, чым сходзіць з яе. З дурноты я яшчэ кінуў той шлях, па якім прыйшоў і, скарочваючы сабе дарогу, пайшоў іншым шляхам. Асьцярожна ступаючы і мацаючы нагою кожную грудку зямлі, перш чым ступіць на яе цьвёрда, я падыйшоў да стромкага адкосу, з якога зыйсьці паволі ня было магчымасьці, а трэ' было саскочыць на скалу, з якой, як мне здавалася, дарога ўжо была простай і лёгкай. Я гэтак і зрабіў. Знайшоўшы адпаведнае месца, я скочыў, але ледзь толькі даткнуўся нагамі да скалы, калі ногі мае паехалі ўперад, быццам на калёсах, і, страціўшы роўнавагу, я ўва ўсю даўжыню расьцягнуўся на скале, моцна ўдарыўшы галаву. Схамянуўшыся трошкі, я пачуў, што зьяжджаю з гары. Месца, на якое я скочыў, было цьвёрдай гладкай скалой, прысыпанай зьверху пластом грубага жвіру. Пад цяжарам майго цела жвір рухнуў з месца і, не знаходзячы ніякай апоры на гладкім целе цьвёрдай скалы, каціўся па яе схіле, вязучы з сабою мяне. Я сіліўся разварушыць пласт жвіру, каб нагою ўпёрціся ў скалу, але ўсе высілкі мае былі дарэмны: пад рукамі і нагамі і пад усім сваім целам я чуў толькі круглы рухомы жвір, разам з каторым паволі я спаўзаў усё ніжэй і ніжэй у кірунку прорвы, якая з правага боку паглядала на мяне вострымі зломамі скалаў. Перавярнуўшыся на бок, я пачаў рукамі шукаць якой-небудзь апоры, падзёр іх да крыві, але нічога не памагала — прорва была ўжо на адлегласьці некалькіх дзесяткоў крокаў і з яе выглядаў да мяне белы твар сьмерці.

**Дзядзька Пранук.**

*(Працяг будзе)*

ў рады) і хоць два разы ў простападных да сябе кірунках.

Гатункаў аўса ёсьць шмат, але такіх, якія падходзілі-б да ўсіх гаспадарак — няма і ня можа быць. Вялізарна розьняцца паміж сабою гатункі ў дасьпяваньні, ёсьць раньнія, сярэднясьпейныя і позьнія.

Раньнія гатункі вымагаюць лепшых грунтоў і мацнейшага гнаеньня і ў добрых палажэньнях даюць высокія ўраджаі, сьпеючы адначасна з жытам. Сярэднясьпейныя дасьпяваюць разам з пшаніцаю, нарэшце — позьнія гатункі маюць на некалькі тыдняў даўжэйшы пэрыяд разьвіцьця, як раньнія. Для паасобных кліматычных і грунтавых варункаў трэба устанавіць на аснове дасьведчаньня, якія гатункі аўсоў для іх найадпаведнейшыя. У некаторых выпадках будзе патрэбны адначасны засеў раньняга гатунку для гаспадарчых мэтаў данае гаспадаркі (на аброк) і пазьней.

Часамі чуваць крытычныя ўвагі аб раньніх гатунках аўса, што яны сьпеюць адначасна з жытам і праз гэта паўстаюць труднасьці пры зьбіраньні.

Перасьпелы авёс лёгка высыпаецца, а асабліва пасьля дажджу, дык і нельга вельмі пазьніцца зьбіраць, каб ухіліцца ад стратаў.

## Дзе ляпей вясьці гаспадарку — на хутары ці на шнурках?

Гэткае пытаньне паўстае цяпер амаль што ня ў кожнага гаспадара, які больш-менш пазнаёміўся з культурай нашага веку і жадае прыстасаваць гэту культуру на практыцы ў сваёй гаспадарцы. Наш селянін пытаньне гэтае ня можа добра рассудзіць, дзеля таго, што малазнаёмы, альбо і зусім незнаёмы з новай культурай зямлі, і вось у гэтай кароценькай стацейцы прыдзём яму на падмогу і пастараемся расталкаваць якасьць гэтых двух відаў гаспадаркі.

У нас, на Беларусі, амаль усе дробныя гаспадаркі—шнуравыя. Паўсталі яны ў часы вызваленьня сялян, калі абработка зямлі вялася вельмі прымітыўнамі спосабамі, адпаведна да якіх тады і распарцэлявалі зямлю, але цяпер ужо варункі жыцьця зьмяніліся і дзеля гэтага гэткая сыстэма парцэляцыі зрабілася неадпаведнай, бо няма ніякай магчымасьці прыстасаваць да шнуравой гаспадаркі новыя навучна-палепшаныя спосабы ўрабленьня зямлі. Як-жа, напрыклад, асушыць балота ці нізка паложаны грунт, калі ён падзелены на якіх сто палосак, належачых да некалькіх дзесяткоў асоб. Адзін разумее важнасьць асушкі і падтрымлівае яе, другі кажа, што гэта зусім непатрэбна, трэйці проста сабе не хоча і так зямля ня прыносе ніякае карысьці, бо пры такім спосабе валаданьня ёю, немагчыма барацьба з капрызамі прыроды. Цяпер гаспадар сярэднім лікам мае 8—10 дзес. зямлі і падзелена яна на 10—15 шнуркоў, шырыні няраз 5 аршын, а даўжынёй вярсту і ад сядзібы яны за $^1/_2$ — $1^1/_2$ вярсты. Як-жа тут можна ўдабрыць і вырабіць зямлю, калі на адну язду ды хаду траціцца болей часу, як на самую работу. Іншы раз гаспадару нават не аплачваецца вясьці на далёкі шнур гной, асабліва, калі падойдзе сяўба і час стане надта дарагі.

Як-жа перайсьці нам з нашай пастарэўшай нікуды нягоднай трохпольнай гаспадаркі на многапольную, прынятую усімі культурнымі старонкамі? Пры шнуравой гаспадарцы гэта зусім немагчыма, бо калі немагчыма асушка, дык гэта тым болей немагчыма, дзеля таго, што ўжо тут сяляне трымаюцца традыцыі, а з ёю зладзіць ужо шмат цяжэй, як нагаварыць гаспадароў пракапаць на балоце роў. Адным словам, сколькі ні прыглядайся, сколькі ні шукай добрых бакоў шнуравой гаспадаркі, нідзе іх ня знойдзеш, усюды застарэўшая, неадпаведная нашым часом, спадчына нашых дзядоў і прадзедаў, усюды кітайскі мур, які ня пушчае ў нашу вясковую гаспадарку культуры, ўжо створанай другімі народамі; аб стварэньні свае, дык ужо тут няма і мовы. Зусім іншая справа на хутарох; тут гаспадар, здабыўшы трохі веды, не змарнуе яе, а можа свабодна скарыстаць на падняцьце свае гаспадаркі і паслужыць прыкладам для іншых. Тут ён ня мае патрэбы трымацца традыцыі і сеяць жыта праз кожныя два гады ў адным месцы, хаця яно прыносе мінімальны ўраджай, а можа завясьці ў сябе севазварот, які прыносе найлепшую карысьць. На мокрым грунце ня будзе выпраўляць ды вымакаць збожжа, бо кожны гаспадар хоць з самымі малымі пазнаньнямі сьцяме, што гэтай нявыгады можна пазбыцца самым простым спосабам. На хутары селяніну ня прыдзецца аддзіраць дзёран ад нязьлічаных межаў, каля якіх нічога не расьце, ня прыдзецца рабіць пераходаў з шнурка на шнурок, аднімаючых яму спора часу, бо будзе ўся зямля ў адным месцы і тут-жа каля сядзібы.

Хутарная гаспадарка—гэта найнавейшая форма ўрабленьня зямлі, якая адпавядае патрэбам новачаснай тэхнікі і культуры; яна, пры затраце найменшае энэргіі, дае найлепшую карысьць. Перавагу хутарнай гаспадаркі над шнуравой даўно зразумелі народы Заходняй Эўропы і іншых культурных краёў і ўсялякімі спосабамі дабіваліся і дабіліся пераходу з шнуравой гаспадаркі на хутарную, толькі ў нас, на Беларусі, дзяржацца старога прынцыпу абрабляньня зямлі, але настаў час і для нас, калі ўжо пара падняць угару сьцяг беларускай культуры і галасна зажадаць рэформы істнуючага ладу вясковых гаспадарак. І вось, беларускі селяніне, калі ты сябе запраўды лічыш грамадзянінам гаспадарства, калі ты хочаш сваёю працаю прынясьці карысьць сабе і свайму краю— не вагайся на раздарожжы і сьмела ідзі на хутар; гэтым ты зробіш вялізарны крок у культуры свае старонкі і станеш яе жаўнерам у барацьбе за лепшую долю ўсяго беларускага народу.

Вёска Плішчаны, Хаценскай вол.,
Вялейскага павету.

*Селянін.*

# Гаспадарчыя парады.

## Вытворчасьць сельска-гасп. машын і прыладаў і патрэбная для іх сіла.

**Сяўнікі.** Раскідны конны сяўнік шырынёю захопу ў 2, 4 мэтры засявае на адным кані ў дзень да 6-7 дзесяц., а з шырынёю захопу ў 3,7 мэтра— 10 дзесяцін. Што датычыцца патрэбнай сілы для перасоўваньня сяўнікоў, то можна лічыць, што 7-9 радавы сяўнік патрабуе 1 каня, 11-13-17 радавыя сяўнікі патрабуюць пару коняў і 19-21-23-25 ра-

давыя — тройкі коняў. Вытворчасьць сяўнікоў угнаеньня каля $^5/_6$ дзесяцін на кожныя 50 сант. шырыні захопу.

Сенакасілкі і жняяркі. Так званыя аднаконныя сенакасілкі з шырынёю захопу ў 1 мэтр патрабуюць не 1 каня. Гэтак парай сярэдніх коняй працуе сенакасілка з захопам у 1,3 мэтра. Сенакасілка можа скасіць у гадзіну $^1/_{10}$ дзесяц., калі шырыня захопу 30 см.; „Лобагрэйка“ (жняярка), з шырынёю захопу ў 1,7 мэтра якраз пад сілу пары сялянскіх коняй. Пры захопе ў 1,75 мэтра трэба ўжо запрагаць трое коняй. Вытворчасьць гэткая самая, як і сенакасілак. Самаскідаючая жняярка з шырынёю захону ў 1,5 мэтр. працуе на трох конях. Вытворчасьць, як сенакасілкі. Снопавязка з шырынёю захопу ў 1,8 мэтр. патрабуе 4 коняй. Вытворчасьць, як сенакасілкі. Снопавязка патрабуе на дзесяціну 2 клгр. тонкае вяроўкі.

## Садоўніцтва.

Самая вялікая шкода нашых садоў — гэта іх над'звычайная гушчыня. Калі дрэвы ў садзе растуць цесна, дык сад вя будзе даваць пладоў. Пакуль сад малады, каб не прападала пад ім месца, на вольнай плошчы можна садзіць парэчкі, агрэст, маліны і інш. ягады. Другой вялікай шкодай зьяўляецца тое, што сад пасьля пасадкі амаль зусім не даглядаецца. Дагляд за садам павінен пачынацца адразу пасьля таго, як пасадзяцца дрэвы.

Ямы капаюцца для асеньняй пасадкі з вясны, а для вясновай — з восені, круглыя, ушыркі 2-2$^1/_2$ аршыны і глыбінёю ад трох чвэртак да аднаго з чвэрткай аршын. Верхні пласт з ямы трэба выкідаць на адзін бок, а ніжні — на другі. Ніжні пласт зямлі раскідаецца па вучастку, а каб запоўніць ямы, прывозіцца добра ўрадлівая зямля. У дно ямы ўбіваюць кол удоўжкі два з паловай аршыны. Перад пасадкай за тыдзень пласт добрай зямлі скідаецца ў яму і робіцца ў сярэдзіне грудок. Пасадзіць дрэва трэба так, як яно расло ў школцы — ня вышэй і ня ніжэй.

Выбар месца для саду. Лепшае месца роўнае, або чуць пакатае на поўдзень, або на паўднёвы захад, абароненае з поўначы горкамі, лесам, будовамі і г. д.

Угнаеньне глебы. За год да пасадкі дрэў вывязьці ў красавіку-маі 3.000 пудоў гною, заараць на 2-3 вяршкі. У палавіне чэрвеня забаранаваць, а праз два тыдні ўзараць на 3-4 вяршкі, а ўвосень — глыбокае ворыва. Або ў гэтым годзе—пасадзіць бульбу і добра ачысьціць вучастак ад зельля. Зямлю, якую будуць ссыпаць у выкапаныя ямы гнаіць попелам (адзін гарнец на дрэва) і касьцяною мукою (5 фунтаў на дрэва).

Час пасадкі дрэў — вясна, за выключэньнем вішні, якая ўвесну вельмі рана пачынае расьці. На высокіх сухіх мясцох садзяць і ўвосень з такім разьлікам, каб дрэвы пасьпелі ўкараніцца да маразоў.

Адлегласьці паміж дрэвамі. Паміж яблынямі—2 з паловай сажні, паміж грушамі, вішнямі і сьлівамі—6-7 аршын.

## Падзел супольнае зямлі пры сцаляньні грунтоў.

Разглэдзьма тут, як падзяліць супольныя зямлі пры камасацні, калі няма згоды паміж удзельнікамі сцаленьня.

Гэтыя справы дакладна рэгулююць два распараджэньні: 1) распараджэньне Міністра Зямельных Рэформаў у паразуменьні з Міністрам Справядлівасьці за 12 красавіка 1926 году, аб устанаўленьні абавязальнага тэксту закону 31 ліпня 1923 году, аб сцаленьні земляў, а таксама 2) распараджэньне за 29 красавіка 1926 г., аб выкананьні папярэдняга закону. На аснове 7 арт. закону аб сцаленьні і § 6 выканаўчага распараджэньня, пры камасацыі падзел грунтоў, якія знаходзяцца ў супольным уладаньні грамадаў, будзе зроблены ўрадова, згодна з правіламі тэрыторыяльна абавязваючых законаў, пры чым загад зямельнага камісара аб падзеле гэтых грунтоў замяняе ініцыятыву старон (калі-б была нязгода). Згодна з арт. 19 закону, павятовая зямельная установа загадвае выбары рады удзельнікаў сцаленьня і вось гэтая рада (г. зв. rada scaleniowa), згодна з арт. 22 п. А., устанаўляе прынцыпы падзелу супольных зямельных кавалкаў, альбо іхняе выкарыстоўваньне, а таксама азначае іх абшар, выдзелены на мэты мясцовага агульнага ўжытку. Рада складаецца з поўнамоцнікаў вёскі (ад 3 да 7 асобаў), а таксама і з прадстаўніка ўласьніка двара (majątku).

Рада таксама мае права выбраць каморніка, або прасіць аб назначэньні яго. Гэтак, як бачым, аб супольнай зямлі будзе рашаць рада і перад ёю трэба старацца справядлівага падзелу. Але згодна з арт. 21 закону, ў выпадку сьцьверджаньня, што дзейнасьць паасобных сяброў ці і цэлае рады удзельнікаў сцаленьня зьяўляецца неадпаведнаю для мэтаў, азначаных законам аб камасацыі, дык акружная зямельная установа можа ўхіліць, па прапазыцыі зямельнага камісара, як паасобных сяброў рады, на месца якіх увайдуць іх намесьнікі, так і зусім распусьціць усю раду. У гэтым апошнім выпадку, акружная зямельная установа, альбо загадвае новыя выбары, альбо ўрадова назначае новых сяброў „rady scaleniowej“ і іх намесьнікаў з ліку удзельнікаў сцаленьня. З гэтага выходзіць, што ў выпадку нязгоды, акружная зямельная установа мае ўплыў на правядзеньне сцаленьня. Усялякія падробнасьці аб падзеле рашае сама рада, а жалабы на самы працэс сцаленьня трэба ўжо падаваць у бегу самага разгляду. Бяручы пад увагу скомплікаваную працэдуру, ня можам тут падаваць дэталяў, але ў выпадку якіх-нібудзь труднасьцяў, трэба зьвярнуцца да адваката, найлепш мясцовага, які мог-бы пільнаваць усяе справы і не дапусьціць да якіх-нібудзь няправільнасьцяў.

## Бяzплоднасьць кабылы.

Часта здараецца, што гаспадар мае вельмі добрую кабылу, якая няраз у працягу аднаго або нават і двух гадоў адстаўляецца, аднак-жа ня хоча жарабіцца.

Гэткія зьявішчы—вялікая няўдача для земляроба-гадавальніка. Прычынаю няплоднасьці можа быць катаральны стан похвы альбо маткі, што выказваецца сьлюзаватым жоўта-чырвоным або жоўтаватым выцекам; у гэткіх выпадках трэба рабіць у працягу пэўнага часу прамываньні з ірыгатара цёплаю рошчынаю $1/2\%$ лізолю, або 2 % ачышчанае соды.

Часта надходзіць няплоднасьць, як рэзультат няправільнага полагу, затрыманьня месца і г.д., па прычыне чаго робіцца звужэньне, стаўсьценьне альбо нават і закрыцьцё матачнае шыйкі. Няраз таксама бывае і скрыўленьне маткі, а таксама зьяўляюцца рознага роду новатворы.

Апрача таго, няплоднасьць кабылы можа быць і ад адстаўляньня яе ў неналежным часе і ў пэрыяд недаволі выяўленага патрабаваньня.

Каб ухіліць няплоднасьць, трэба грунтоўна зравідаваць кабылу і, выясьніўшы прычыну, ўжыць адпаведныя сродкі.

Даваньне рознага гатунку ўзбуджальных сродкаў ня мае сэнсу і павінна быць адкінена.

## Селянін павінен памятаць наступныя дзесяць запаведзяў у барацьбе з зямельным нядадам.

1. Змагайся з цераспалосіцай зямель і рабі так, каб землі былі ў адным кавалку.
2. Зьнішчай дальназямельле і прыбліжай зямлю к гаспадару альбо гаспадара да зямлі.
3. Змагайся з няправільнымі межамі надзелу, раўняй, выпрамляй і абкруглівай іх.
4. Зьнішчай недахват зямлі шляхам паляпшэньня няпрыгодных раней земляў.
5. Змагайся з недастаткам і благой якасьцю вады ў гаспадарцы.
6. Змагайся з бездарожжам, паляпшай дарогі і клапаціся, каб быў добры доступ да кожнага вучастку.
7. Падумай аб няпрыгодных землях, балотах, пяскох, не давай ім пашырацца, паляпшай іх і ўцягвай у гаспадарку.
8. Абдумай няўдобнае гаспадараньне ў буйных вёсках з сотнямі двароў і расьсяляйся на хутары.
9. Зьнішчай зямельную судовую валакіту.
10. Змагайся з няўстройствам сярод вёскі, пераходзь на шматпольле і шырокія палосы, правільна будуйся на сваёй сядзібе.

### Сарадэля.

Пытаньне: 25 сакавіка сёлетняга году я высеяў сарадэлю і прыбаранаваў, бо было ўжо зусім цяпло, а сьнегу зусім ня было дзён 10—12 назад. Пасьля засеву на другі дзень замарозіла, а на 3 дзень выпаў гэткі сьнег, што можна было езьдзіць саньмі. Ці гэта ўсё пашкодзіць сарадэлі?

Адказ: У Наваградчыне нельга надта ўжо сьпяшацца з сяўбою. Сарадэлі нічога ня зробіцца, бо яна яшчэ не змагла прарасьці.

Калі халады трывалі доўга, дык насеньне магло збутвець у не даволі агрэтай зямлі, якая мае шчэ зашмат зімовае вільгаці. На лягчэйшых грунтох сеецца раней, на тугіх, цяжкіх — пазьней. Трэба прыглядацца да тых, што растуць не далёка, кустоў і дрэваў, якія пачынаюць пушчаць пучкі, калі зямля ўжо добра ўгрэтая. Калі сарадэля была ўсеяна ў жыта, дык агаленьне жытніх карэньчыкаў можа пацягнуць за сабою вымярзаньне жыта.

### Хвароба каровы.

Пытаньне: Я купіў карову, якая захварэла нейкаю мачавою хваробаю. Карова часта выпушчае мачу, але ў малой колькасьці, пры гэтым уздуваецца. Што гэта за хвароба і як яе лячыць?

Адказ: З апісаных праяваў відаць, што карова хварэе гэтак званым катарам мачавога пузыра; хвароба гэтая паўстае з прастуды, або і з благое, тухлае, заплясьнелае і папсованае пашы.

Яе трэба карміць добрымі пшанічнымі вотрубямі, да якіх па 2 разы на дзень трэ' дадаваць па 2 лыжкі карльсбадзкае солі, сьцерагчы ад прастуды, зад пакрыць цёплаю посьцілкаю, не паіць халоднаю вадою і даваць піць 1 раз на дзень па літраў два адвару пятрушкі.

## Як садзіць капусту і даглядаць яе.

Капуста бывае 2-х сартоў — раньняя і позьняя; першая з белым качаном, а другая з чырвоным качаном. Сялянам лепш садзіць пазьнейшую, як мацнейшую да складаньня на зіму. Грады трэба рабіць нявысокія, а як зямля добра ўгноеная, то можна садзіць і бяз град.

Капуста вельмі любіць вільгаць і шмат гною. Садзіць раньнюю трэба на градзе ня гусьцей, чым 12 вяршкоў, а позьнюю—1 аршын каліва ад каліва.

Пасадзіўшы, трэба чым найчасьцей паліваць, каб карэньні маглі ўзяцца моцна за зямлю. Праз месяц пасьля пасадкі, як капуста вырасьце на 3-4 вяршкі ўверх, трэба яе абсыпаць зямлёю і навокал успухкаць зямлю. А праз 2-3 тыдні капусту зноў трэба абсыпаць да самых ужо лістоў, і трэба даглядаць, каб вусень не зьядаў лісткоў, бо на капусту горш, як усякую іншую расьліну, гэты вусень нападае. Каб збавіцца ад яго, трэба чым найхутчэй напарыць тутунёвых каранёў і гэтым сокам паліваць лісьцё капусты і наагул усяе агароднае расьліны і паліваць аж да тых часоў, пакуль вусень зусім ня згіне, бо калі не даглядзець, ён можа зьнішчыць ўсё лісьцё.

# Куток для мацярок.

ДОКТАР РАВІЧ.

## Ангельская хвароба.

Якая-ж маці ня чула аб гэтай хваробе? Яе баяцца ўсе, маючы на думцы крывыя ножкі, якія гэтак псуюць дзіця. Гэтыя „крывыя ножкі“, а праўдзівей скрыўленьне і зблшчаньне касьці, сапраўды-ж зьяўляюцца аднэю з важных праяваў ангельскае хваробы. Галоўныя зьмены ў гэтай хваробе датычаць касьці: хворая будова ня ўмее выцягнуць з крыві і затрымаць у касьцях вапенных і фосфарных соляў, якія зьяўляюцца неабходнымі дзеля касьцяненьня; косьці ў дзяцей, хворых ангельскаю хваробаю, — мягкія, храшчаватыя і праз гэта лёгка паддаюцца скрыўленьням. Размякчэньне касьці выдзяляецца ку-

ды раней, як на ножках, на касьцях чэрапу: патыліца — мягкая, як пэргамэнт, цемячка бывае значна расшыраным і зарастае памалу, зубы выходзяць позна і лёгка паддаюцца парахненьню або пакрытыя зеленаватым асадкам. Апрача гэтых відочных зьменаў, якія ўрэшце трудна ўсе й пералічыць, бо іх бывае вельмі шмат і яны бываюць рознародныя, пры ангельскай хваробе пашкоджанаю зьяўляецца ўся будова дзіцяці— гэткія дзеці хварэюць на жывот і кішкі, цяжка хварэюць запаленьнем лёгкіх, бываюць малакроўнымі (анэмічнымі), маюць павялічаныя печані і селезёнку. Разьвіцьцё дзяцей, хворых ангельскаю хваробаю, звычайна бывае значна запушчаным, спачатку мягкія косьці—пасьля касьцянеюць няправільна, што некарысна ўплывае на форму чэрапу, грудное клеткі („курыныя грудзі") і хрыбта (горб),—дык і не дарма, значыць, мацяркі баяцца ангельскае хваробы. Аднак-жа, хай памятуюць, што нельга чакаць, аж пакуль ножкі будуць крывыя, бо лекар пазнае ангельскую хваробу шмат раней і адпаведным лячэньнем можа папярадзіць скрыўленьні, ці прынамсі значна абмежаваць іх.

Але мацяркі і самі шмат могуць зрабіць, каб ангельская хвароба не разьвілася. **Найбольшае значэньне ў папярэджваньні ангельскае хваробы мае сонечнае сьвятло**, а сонца-ж сьвеціць для ўсіх, абы толькі хацелі ім карыстацца: калі-б вокны ў нашых хатах былі большыя і зьвернены на поўдзень, калі-б іх не забівалі цьвікамі і не залеплялі кітам, а адчынялі, як летам, так і зімою, калі-б дзяцей выносілі на паветра ўзімку, калі сонца, праўда карацей, але-ж прыгожа няраз сьвеціць, а мароз дзеець асьвяжальна — тады мы ня бачылі-б па вёсках гэтулькі дзяцей з крывымі ножкамі і з вялікімі жабячымі жыватамі!

**Апрача сонца й паветра, на ангельскую хваробу мае ўплыў і няўмелае кармленьне**: найчасьцей тут шкодзіць абкормліваньне, а значыцца нерэгулярнае кармленьне грудзьмі і ў сто разоў часьцей—вельмі шчодрае даваньне каровячага малака. Дзіця ў другім паўгодзьдзі жыцьця павінна быць дакормлівана ня толькі малаком, але кашкамі і гароднінай (ператоўчаная бульба, морква, шпінак, бурачкі), кампотамі і сокамі сырых фруктаў. Дакармляньне трэба рабіць паступова і асьцярожна, гароднінкі добра перацірадь альбо разварыць у супах, але надта доўга чакаць з мяшаным кармленьнем ня трэба.

(„Kultura").

# Карэспондэнцыі.

## Вялікадня на вёсцы.

Гэрманавічы, Дзісьнен. пав. Сёлетняе Вялікоднае сьвята, як і ў папярэднія гады, прайшло спакойна. Моладзь наша, а нават і старэйшыя з'арганізавалі аж дзьве партыі валачобнікаў, якія выражалі сваю радасьць у сваёй роднай мове, сьпяваючы беларускія песьні. Нашыя сяляне хоць і беларусы, аднак ня ўсе прыхільна адносяцца да беларускай справы і дзеля гэтага некаторыя адмаўлялі валачобнікам, ня хочучы слухаць беларускіх песьняў. Ёсьць і такія вырадкі, каторыя лічаць нізкім сьпяваць беларускія песьні ды гутарыць пабеларуску. Яны забываюцца, што той, хто адракаецца свайго роднага, а імкнецца, як жаба на пень, да чужога, той паніжае сябе, яму стыд і ганьба!

Дзеецца гэтае з тае прычыны, што нашыя сяляне жывуць бяз ніякіх культурных арганізацыяў, а мала хто чытае сваё роднае друкованае беларускае слова. А той, хто чытае карысныя кніжкі і газэты, той сабе ў жыцьці дасьць раду лепей змагацца з розным ліхоцьцем. Дык, дарагія браты, пакіньма ўстыдацца свае роднае мовы! Не шкадуйце грошай на падпіску „Беларускага Дня", бо гэная газэта бароніць нашыя сялянска-земляробскія справы і служыць нацыянальнаму беларускаму адраджэньню.

Я. БЯЗДОЛЬНЫ.

## Ці-ж мы што благое зрабілі, што дабіліся беларускае школы?

В. Шаўляны, Браслаўскага пав. У нашай вёсцы ёсьць беларуская прыватная школа. З вялікім трудом удалося нам яе адкрыць. Праўда, ў гэтым памог нам Бел. Інст. Гасп. і Культуры. Канцэсію Інстытут адтрымаў на гэту школу ў пачатку школьнага году, але горшая справа была з зацьверджаньнем настаўніцы ў гэтую школу. Два разы Інстытут падаваў яе дакумэнты да Браслаўскага Школьнага Інспэктара аб зацьверджаньні і ўсё было адмоўлена. Пры гэтым трэба ад'значыць, што наш Інспэктар п. Прухніцкі вельмі няпрыхільны да беларусасьці і вялікі бэсцэрэмонны палянізатар нашага павету. Усе сяляне праклінаюць яго за няслушныя штрафы; не аднаму селяніну прышлося за школьны штраф прадаваць апошнюю аўцу, або апошні пуд сена. Але перайду зноў да самага агляду нашае школы. Калі Інспэктар не зацьвярджаў настаўніцаю ў нашай школе п. Мар'ю Булыгу, то Інстытут зьвярнуўся ў гэтай справе да Віленск. Куратарыюму, які не мог адмовіць, дзеля таго, што гэта настаўніца мае 15 гадоў пэдагогічнай практыкі і некалькі гадоў працавала ў польскіх дзяржаўных школах, заўсёды езьдзіла на курсы. З польскай школы звольнена ня ведаем за што, але яна сьвядомая беларуска.

І вось у канцы лютага с. г. куратарыюм зацьвярдзіў вучыцельку п. М. Булыга.

Шмат мы мелі клопату, пакуль здабылі школьны інвэнтар пры сучасных матар'яльных абставінах, але ўсё-ж такі змаглі загаіць гэтую балячку. У школу шмат прыйшло вучняў, штось каля 53-х, пакінулі хадзіць у польскую школу, якая знаходзіцца ў суседняй вёсцы. Бачачы гэткую „небясьпеку", п. Яблонскі—настаўнік польскай школы, пачаў рознымі брыдкімі паступкамі падрываць аўторытэт нашай школы. Прыходзіў у нашу вёску і страшыў бацькоў, што хто пусьціў сваіх дзяцей у беларускую школу, той будзе плаціць вялікі штраф (па 100 зл. ад дзіцяці), а той, хто аддаў памешканьне пад школу, будзе сядзець у вастрозе 5 гадоў, і іншыя рэчы вычаўпаў. Сяляне моцна стаяць за сваё, не палохаючыся такіх дурных пастрашак п. Яблонскага, ведаючы тое, што маюць права на тое, каб тут была беларуская школа.

Ня досыць гэтага, дык яшчэ мясцовая паліцыя робіць вялікія перашкоды разьвіцьцю нашай школы; перад усім Іодзкая паліцыя. Прыкл., такія рэчы выраблюе гэта паліцыя нашым сялянам: прыходзе паліцыянт у хату і пытае: „Do jakiej szkoły posyłasz dzieci swoich, do polskiej czy do białoruskiej"? Калі-ж селянін адкажа, што ў беларускую, то зараз паліцыянт глядзіць у двор і ўсюды, ды знайшоўшы крыху дзе сьмяцьця, піша пратакол, і пры гэтым зазначае: „Jeżeli będziesz posyłać swoich dzieci do polskiej szkoły to nie będzie protokułu". А калі селянін адкажа, што не,—то піша пратакол і сьцягваюць штраф.

Найгоршым паліцыянтам аказаўся, які найбольш дапякае нас, прозьвішча яго ня ведаем, але № 1926-ты.

Потым намаўляюць нас, каб пускалі дзяцей у польскую школу, дык за гэта ўрад будзе даваць розныя грашавыя дапамогі, калі-ж будуць пасылаць у беларускую, то заўсёды будуць плаціць штрафы і сядзець у турме. Але мы моцна стаімо за сваё і будзем трымацца моцна свае роднае мовы і ад гэтага не адстрашаць нас ні паліцыя, ніякія мясцовыя ўлады і паасобныя варожыя адзінкі, бо мы добра ведаем, што закон за намі.

ШАЎЛЯНЕЦ.

### А у нас усё-ж такі ня шкодзіла-б мець начную варту.

В. Голубаўшчына, Браслаўскага пав. Як вядома, ўсюды ёсьць зладзейства, асабліва вясной, калі людзі зусім бедныя, папросту ня маюць чаго есьці, а заработкаў няма, то йдзе другі красьці, а іншыя і з распусты крадуць.

Але каб сьцерагчыся ад злодзея, то трэба пільнаваць хоць убогую сваю маемасьць. Усюды ў вёсках была ўстаноўлена вясковая варта, якую поўніў кожны гаспадар пачарзе. Калі-ж ёсьць такая варта, то усё-ж такі ня так сьмела пойдзе злодзей красьці, а пры тым важна такая варта і на выпадак пажару. Але цяпер чамусьці воласьць прыказала скасаваць вясковую варту; гэты прыказ наступіў 30.IV.27 г. ў цэлай воласьці, а мо' і ў цэлым павеце, гэтага ня ведаю.

У тую-ж ноч, як толькі была спынена варта, аказалася пакража ў нашай вёсцы, пакуль што невялікая, але гэта можа толькі спроба, ці інакш кажучы, ўступ да большай пакражы. У чатырох гаспадароў здарылася пакража: у Юстына Краўчонка прапаў плуг жалезны і лейцы, ў Міколы Краўчонка — хамут, гужы і лейцы, ў Ал. Краўчонка — паршні (скураныя лапці), якія толькі што купіў і заплаціў 4 зл., ў Ів. Краўчонка хамут, шворан і інш. дробныя рэчы.

А пачакаўшы далей, то гэтыя аматары асьмеліўшыся могуць і кароўку за рогі вывесьці з хлява.

Гэта-ж добра было-б, каб ня трэба было варты, але гэта ёсьць толькі ў культурных краёх, як напрыклад: Фінляндыя, Швэцыя і інш., дзе згубленых грошай ніхто сабе не забярэць, так што той, хто згубіць, зусім не бядуе, што згінуць яго грошы, бо ведае добра, што знойдуцца. У нас-жа да гэтага яшчэ не дайшло і, Бог ведае, калі дайдзе, бо цемната пануе ў народзе.

Дык, вось, мы вельмі дзівімся, дзеля якой мэты спынілі начную варту? Яна патрэбна і вельмі патрэбна, каб зладзейства не пашыралася.

ГАЛЎБ.

### Сельска-гаспадарчая школа.

У мястэчку Жыровічах, Слонімскага павету ўжо тры гады ёсьць сярэдняя сельска-гаспадарская школа з аддзеламі: земляробскім, лясным, паправы зямлі (мэліорацыйны). Да школы гэнае прыймаюць кожнага, хто скончыў 7 клясовую народную школу, альбо 4 клясы гімназіі.

Вучыцца тут трэба 3 гады, а пасьля адбыць гадавую практыку і здаць апошнія экзамены. У гэтым годзе скончыць школу блізка 70 чалавек, з каторых нажаль няшмат жыхароў Навагрудзкага ваяв., але ўсе-ж такі ёсьць некалькі асоб з Слонімскага пав., Баранавіцкага і іншых. Навука тут пастаўлена высока, школа мае багатую бібліятэку, лябораторыю, добрых прафэсароў, якія вучаць, як трэба гаспадарыць.

На школьным фальварку вядзецца паказная гаспадарка з штучнымі гнаямі. Жыхары Жыровіч і ваколіцаў цікавяцца гэтымі палеткамі. Сьведамасьць беларуская нажаль тут мала пашырана. Аднак з дня на дзень яна пашыраецца і расьце.

С. Т.

### Добры прыклад культурнае працы.

Мядзьведзічы, Баранавіцкага пав. У Мядзьведзічах паўстаў гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры; сяброў у гуртку ня шмат, усяго 20 чалавек, яны надта горача ўзяліся за працу, залажылі ўласную бібліятэку. Шчыра ўзяліся ставіць спэктаклі ня толькі ў сваім мястэчку, але і ў ваколічных вёсках і мястэчках.

На Вялікадзень сябры гуртка, дзяўчаты і хлопцы, сабраліся ў памешканьні гуртка, дзе правялі вечар, пяючы беларускія песьні і дэклямуючы вершы нашых поэтаў. Не магу Вам апісаць, якая паміж намі панавала таго вечара радасьць; нас лучыла адна ідэя, дарагая для нас і ўкаханая, што мы працуем на карысьць нашае Бацькаўшчыны. І сумна робіцца, калі глянем кругом і ўбачым, што ў іншых месцах моладзь не арганізуецца, не працуе над сабой, а чураецца часта свае роднае мовы, час праводзіць на п'янстве і іншых благіх рэчах.

На другі дзень адбылася лэкцыя грам. Карузы, а пасьля грам. Цяўлоўскага, каторыя сваімі прамовамі зрабілі вялікі ўплыў на прысутных.

На заканчэньне хор гуртка прапяяў некалькі беларускіх песьняў.

Прысутны.

## Аб усім патроху

### Лунатык на варшаўскім замку.

У Варшаве здарыўся цікавы выпадак лунатызму.

Як піша кракаўскі „Ilustrowany Kurjer Codzienny", пастарунковаму Скржыпку нямала нагнаў страху адзін таямнічы ягомасьць, які спацыраваў сабе ўночы па тэрасе каралеўскага замку.

Ягомасьць гэты праз мінуту абапёрся аб сьцену, досіць доўга стаяў нярухома, ўглядаючыся ў месяц. Пасьля некаторага часу ізноў зрабіў некалькі шагоў наперад, узьлез на бар'ер і, зрабіўшы фэномэнальны скок, ухапіўся рукамі за павіслую галіну каштана.

Зьдзіўлены паліцыянт стрывожыў замковую варту. Разам з жандарам Адамскім пабег у сад.

Тымчасам незнаёмы пасьпеў ужо ссунуцца з дзерава і зьнік у начной цемры. Яго доўга шукалі. Нарэшце, паліцыянт заўважыў, што на тэлефонным стоўпе нехта стуліўшыся сядзіць.

— Злазь, панок!...

Дзеля таго, што адзін чалавек ня мог даць рады гэтаму дзіваку, дык паклікаў на падмогу тавtownарыша, які спрытна ўзьлез на стоўп. Асьцярожна, бяз шуму спусьцілі незнаёмага на зямлю. Ён быў няпрытомны, меў заплюшчаныя вочы. Паліцыянты дагадаліся, што маюць справу з лунатыкам.

Выцьверазеўшы, асаблівы ягомасьць назваўся Раманам Твардзінскім. Як ён заблудзіў на замковую тэрасу, вытлумачыць ня мог. Пасьля напісаньня пратаколу, лунатык сардэчна разьвітаўся з паліцыянтамі, падзякаваў за апеку і выйшаў з камісарыяту.

## Найбольшая глыбіня акіяну.

У плаваньні з вострава Цэлебэс да Нагасакі (Японія) крэйсэр „Эмдэн“ знайшоў, як паведамляе радыё, у адным месцы Індыйскага акіяну глыбіню ў 10.430 мэтраў. Гэта — найбольшая, вядомая дасюль, марская глыбіня. Раней была вядома найбольшая глыбіня 9.780 мэтраў у Ціхім або Вялікім акіяне.

## Мільён за вынаход.

Малады расейскі інжынер, Анатоль Іосэф, які прабывае ўсяго тры гады ў Амэрыцы, вынайшоў апарат, якім кожны, хто захоча, зможа сфатаграфавацца сам за 25 цэнтаў. Працэдура вельмі простая: чалавек сядае перад апаратам, кідае ў яго 25 ц. і, па парушэньні адпаведнае ручкі, дастае 6 фатаграфіяў, якія прадстаўляюць яго ў розных пазыцыях.

Пяць гэткіх апаратаў, пастаўленых у Нью-Іорку, блізка тэатральнага кварталу на Бродваю, рабілі паўгода добры інтэрас. Цяпер супалка, на чале якое стаіць бышы амэрыканскі пасол у Турцыі, Моргэнтау, адкупіла гэты вынаход ад Іосэфа за адзін мільён даляраў. Яна задумвае ўстанавіць па цэлай Амэрыцы такія апараты Іосэфа, які думае палавіну свайго заработку прызначыць на дабрадзейныя мэты, а другую палавіну ўлажыць у такі вынаход, які будзе прыносіць пажытак для ўсіх. З асабістых перажываньняў ён ведае, што жыцьцё вынаходцаў вельмі цяжкае і таму хоча ім памагаць.

## Эўропа выраджаецца.

Офіцыяльная статыстыка радзінаў у эўропэйскіх краёх паказвае, што Эўропа пакрысе выраджаецца.

Дасюль лічылі, што Францыя з сваею „сыстэмаю двух дзяцей“ мае выняткові прывілей на ўсё меншую і меншую колькасьць радзінаў і стаіць перад пагрозаю маруднага выраджэньня. А тымчасам і іншыя краі пачынаюць выразна браць прыклад з Францыі.

Наперадзе тут аказваецца Швэцыя. У 1925 г. на 1000 жыхароў прыходзілася ў ёй толькі 17 выпадкаў радзінаў, а ў Францыі — 18. Ня лепш і ў іншых краёх. Гэтак, напр., у параўнаньні з Велікабрытаніяй (Англіяй) Францыя стаяла ў 1925 годзе вышэй на 1/10 дзіцяці. Бо статыстыкі— людзі бязьлітасныя ў сэнсе свае точнасьці і чацьвяртуюць новароджаных на палавінкі, чэцьверці і мілімэтравыя частачкі.

Лік радзінаў зьмяншаецца таксама і ў Швэйцарыі. Бэльгіі, Нямеччыне, дзе 25 гадоў назад радзілася 35,7 дзяцей на 1000 немцаў, а цяпер толькі 20,5.

# СЬМЕХ і ЖАРТЫ.

Жыў у Нямеччыне астраном Фальбэрг, які вёў досьледы над зьменай пагоды і ў розных журналах на цэлы год прадказваў, у які дзень якая будзе пагода.

І вось гэны астраном дачуўся, што недзе на вёсцы жыве гаспадар, які так добра прадказвае пагоду, што ніколі амаль ня мыляецца.

Зацікаўлены гэтым, прыяжджае Фальбэрг у гэную вёску, адшукаў прарока, які ніколі яшчэ Фальбэрга ня бачыў, дый пытае ў яго:

— Скажэце, паночку, як гэта вы робіце, што гэтак добра ўмееце прадказваць пагоду, як вы навучыліся гэтай штукі?

— Ды вельмі проста, паночку,—адказвае гаспадар, — тут няма ніякай штукі. У мяне, кажа, ёсьць календар, у якім нейкі Фальбэрг піша, калі якая будзе пагода. Вось па гэным календары і прадказваю: калі ў календары напісана дождж, дык я кажу — сонца, а калі ў календары пагода, дык я кажу, што дождж, і дагэтуль яшчэ ніразу не памыліўся.

# Паштовая скрынка.

Падпісчыку № 9. Вашая ўвага зусім слушная, калі кажаце, што рады грам. Зуя „Як мець раньнюю бульбу“ добрыя, толькі позныя і з іх нельга скарыстаць.

Думаем, што другі раз грам. Зуй і іншыя карэспондэнты будуць старацца даць парады няспозьненыя. Але вя маеце слушнасьці, калі пішаце, што можна да другога году забыцца, бо трэба перахоўваць газэту і шанаваць яе; як трэба абходзіцца з газэтай знойдзеце ў № 11 "Бел. Дня“ ў артыкуле „Што такое прэса“.

Па справе Вашай даём гэткую параду! Ацанеце з сьведкамі страты, якія Вам робяць, і падайце вінавайцаў у суд.

Эм. Рухлі у В.-Сяле. Падайце скаргу да Min. Spraw Wojskowych Dep. VIII Sanitarny.

Міхасю Завадзкаму. Калі ня маеце доказаў, альбо ўмовы на тое, які матар'ял мела прысылаць Вам фірма, дык справа трудная. Можаце падаць у Міравы Суд (Sąd Pokoju) у Вялейцы. Наогул трэба быць асьцярожным, бо найчасьцей гэта ашуканства.

Янцы Крывічу. Ці тое, аб чым пішаце, мела месца з Вамі, а калі так, ды падайце прозьвішча камэнданта і дату, калі гэта было. Інакш ня можам зьмясьціць.

Уладз. Чабатару. Ясьней апішэце справу беднай удавы. Карэспондэнцыю пастараемся выкарыстаць. Што да вершаў, дык самі пішаце, што не ўладаеце добра мовай, а каб пісаць вершы—трэба мець перш за ўсё талент, а пасьля і дасканальна ўладаць мовай.

Бяздольнаму. Гонорар за карэспондэнцыі выслалі поштай.

Жаўранку. За ўсё прысланае дзякуем і выкарыстаем. Расказікі вельмі пажаданы, прысылайце, калі маеце.

Сым. Велікасельцу. На пададзены адрэс газэту высылаем.

Прысутнаму. Карэспондэнцыі выкарыстаем. Падайце дакладныя даныя аб удаве — хто з іх быў каталіком — муж, ці жонка? Як доўга ня было брата і г. д. Тады дамо юрыдычную параду. Газэту высылаем на Вашае імя для воласьці.

Рэдактар-выдавец Ф. УМЯСТОЎСКІ

Выд. Т-ва „Pogoń“ Друк. „Pax“, вул. Сьв. Ігната 5.